ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published by the Byelorussian American Association

P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 334
Год выд. XXXVI

Красавік
1987 г.

## МОВА І ЎЛАДА

У сучаснай беларускай літаратуры сёй-той з паэтаў і празаікаў спрабуе падыходзіць да тэмы комплексу меншавартаснасьці Беларуса, асабліва Беларуса-вяскоўца ў гарадзкім асяродзьдзі. Лёгка дакрануўся да гэтае тэмы, прыкладам, Васіль Гігевіч у романе «Доказ ад процілеглага». Васіль Зуёнак у адным із сваіх нядаўных вершаў згадваў «гарбы», што даводзіцца насіць на сабе Беларусу-гараджаніну, які хоча заставацца пры сваёй беларускасьці. Але тэма гэтых «гарбоў» — тэма нязвычайнай важнасьці для псыхалягічнага самавызначэньня й палітычнага самасьцьверджаньня нацыі — закранаецца мастацкай літаратурай яшчэ вельмі агульна й нясьмела. Канстатуецца факт, сама зьява. Аналіз пакідаецца напасьля, да бесьпячнейшага часу. Хоць, праўда, у публіцыстыцы вядзецца даволі інтэнсыўнае змаганьне з вынікамі комплексу ніжэйшасьці — адрачэньнем ад свае мовы. Дамаганьні большае ролі беларускай мове ў сыстэме асьветы, у культурным жыцьці ды ў афіцыйным ужытку паплылі шырокім патокам у пэрыядычным друку рэспублікі ў выніку гарбачоўскае «галоснасьці».

Але гэта не мяняе сумнага факту, што пісьменьнікі, «інжынеры чалавечых душ», абмінаюць маўкліва прычыны закамплексованае душы Беларуса, баяцца ўдавацца ў аналіз моўнае дэнацыяналізацыі свайго народу. Перад беларускай-жа літаратурай намагальна стаіць пытаньне веку: у моц якіх нутраных імпульсаў і вонкавых фактараў сучасны Беларус, якому афіцыйная прапаганда цьвердзіць, што ён жыве ў сваёй «свабоднай, сувэрэннай, раўнапраўнай» рэспубліцы, выракаецца свае нацыянальнае мовы?

Адказ на гэтае пытаньне, бязумоўна, і ня лёгкі і не адназначны. Пагляд на беларускую мову, як на мову другарадную, менш прыдатную для ўжытку ў розных сфэрах жыцьця, — гэта вынік і эканамічнае рэальнасьці, і культурнае палітыкі, і імпэрскага характару савецкае фэдэрацыі.

З гледзішча на ўзаемасувязь імпэрскае ўлады і расейскае мовы цікавае назіраньне знаходзім у артыкуле П.У. Церашковіча пра вынікі перапісу жыхарства царскае Расеі ў 1897 г. (Асноўныя тэндэнцыі разьвіцьця беларускага этнасу ў эпоху капіталізму — «Весьці» АН БССР, сэрыя грамадзкіх навук, 1986, № 5). Цершаковіч піша пра Беларусаў канца XIX ст.: «Узьдзеяньне асыміляцыйных тэндэнцый закранула чыноўніцтва, праваслаўнае духавенства, інтэлігенцыю, гарадзкую буржуазію. **Сваё прыстасаваньне да пануючай культуры** *(г. зн. да культуры расейскай; падкрэсьленьне наша — Я.З.)* **яны лічылі сродкам выяўленьня ляяльнасьці да палітыкі царызму».**

Мова — вопратка душы, казаў наш Францішак Багушэвіч. Вось-жа палітыка царызму й палітыка саветызму, пры ўсіх адрознасьцях, апранутыя ў тую самую мову — расейскую. Палажэньне на Беларусі з гледзішча на ўзаемасувязь улады й мовы тое самае ў 1987 г. што й 90 гадоў таму: улада дэманструе сябе ў тэй самай «вопратцы». Прыхільнасьць да ўлады вымагае пryняцьця й мовы. Чыноўнік, мешчанін, абываталь, прыставасанец, кар'ерыст, а за імі й звычайны граматы сябе: ляяльнасьць палітычная вымагае ляяльнасьці моўнай. Двумоўе-ж, калі яно не культывуецца, не рэгулюецца, не гарантуецца заканадаўствам, мае выразную тэндэнцыю рэдукавацца да аднамоўя. Беларуска-расейскі білінгвізм на Беларусі, ня маючы пад сабой заканадаўнага грунту, выраджаецца ў расейскі моналінгвізм. Імпэрыя-ж патрабуе толькі аднае мовы, і ўсякі імпэрыялізм тым мацнейшы чым меншлінгвістычны. Нерасейскія мовы перашкаджаюць расейскай культурнай і палітычнай экспансіі.

Гэтае ўтаесамляньне ўлады з мовай і прыводзіць да таго, што Беларусы, не закарэненыя ў сваю культуру — а гэткага закараненьня школа не дае — пакідаюць беларускую мову як непатрэбшчыну, як перашкоду ў рабленьні кар'еры, шуканьні лягчэйшага жыцьця. Дзеля гэтага якраз за фасадам савецкае палітыкі білінгвізму адбываецца пераход з мовы беларускае на расейскую. Але псыхалягічны, культурны й сацыяльны аспэкты гэтае зьявы не дасьледуюцца літаратарамі. А калі-б гэткае дасьледаваньне праводзілася, дык у курсе яго, бясспрэчна, выраблялся-б і імунітэт супраць хваробы веку — страты народам свайго набытага вякамі скарбу, нацыянальнае мовы.

**Янка Запруднік**

### ЧЫЯ ЎЛАДА Ў СССР?

Хоць Савецкі Саюз фармальна — фэдэрацыя 15 «сувэрэнных і раўнапраўных» рэспублікаў, рэальная ўлада й практычнае кіраваньне знаходзяцца ў руках Палітбюро й Сакратарыяту кампартыі Савецкага Саюзу. З прадстаўнікоў якіх нацыянальнасьцяў складаюцца цяпер, за часамі Гарбачова, гэтыя два кіраўнічыя органы?

Вось-жа ў Палітбюро сёньня ўсіх адзінаццаць асобаў: 8 Расейцаў, Азэрбайджанец (Аліеў), Грузін (Шэварднадзэ), і Украінец (Шчарбіцкі).

Палітбюро мае яшчэ васьмёх кандыдатаў у члены (без права голасу): сем Расейцаў і адзін Беларус (Сьлюнькоў, былы першы сакратар ЦК КПБ).

Сакратарыят ЦК КПСС складаецца з 13 асобаў: зь іх сямёх — члены й кандыдаты ў члены Палітбюро (у тым ліку й Сьлюнькоў) ды яшчэ шэсьць асобаў: усе шасьцёх Расейцы.

Узяўшы ўсіх разам, маем 25 асобаў: 21 Расеец ды па адным: Украінец, Беларус, Азэрбайджанец і Грузін.

THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

March 23, 1987

Warmest greetings to all those gathered to celebrate the 69th anniversary of Byelorussian Independence Day.

Today is a day of solemn pride for Byelorussians the world over. Nearly seven decades ago, the people of Byelorussia proclaimed the Byelorussian Republic an independent state. Their exhilaration following independence was short-lived, because Soviet tyranny soon quashed the bright hopes of freedom and self-determination. But this truth remains: the spirit of the Byelorussian people is not conquered, despite years of oppression.

I wish on this occasion to reaffirm my solidarity with the Byelorussian people in their present difficult circus tances and to join with them in their undiminished hope for the future. Let us pray that one day soon, with God's help, the heavy burden of Soviet oppression will be lifted from them, and that they too will be able to join you in celebration.

God bless you.

Ronald Reagan

*Прывітаньне ад Прэзыдэнта Рональда Рэйгана удзельнікам Сакавіковых сьвяткаваньняў (пераклад гл. ніжэй).*

БЕЛЫ ДОМ
ВАШЫНГТОН

23 сакавіка 1987 г.

Найшчырэйшыя вітаньні ўсім, хто сабраўся сёньня сьвяткаваць 69-я ўгодкі Дня Беларускай Незалежнасьці.

Сёньня — дзень урычастага гонару для Беларусаў у цэлым сьвеце. Блізу 70 год таму народ Беларусі абвесьціў Беларускую Рэспубліку Незалежнай Дзяржавай. Аднак радасьць народу па абвешчаньні Незалежнасьці была кароткатрывалая, бо савецкая тыранія неўзабаве здушыла сьветлыя надзеі свабоды й самавызначэньня. Ды застанецца праўдаю: дух Беларускага Народу ня зможаны, не зважаючы на гады ўціску.

З гэтае нагоды я хачу падцьвердзіць маю салідарнасьць зь Беларускім Народам у цяперашніх цяжкіх для яго абставінах ды злучыцца зь ім у ягонай нязьменшанай надзеі на будучыню.

Памалемся-ж, каб неўзабаве аднаго дня, з Боскай дапамогай, важкі цяжар савецкага гнёту быў ськівуты зь яго, ды Беларускі Народ таксма меў-бы магчымасьць злучыцца з Вамі ў сьвяткаваньні.

Блаславі Вас, Божа!

**Рональд Рэйган**

*«Калі Амэрыка здолее прызнаць беларускую мову і камунікавацца зь 10-мілёнвым беларускім народам, тады, магчыма, мы здолеем перадаць яму (праз «Голас Амэрыкі) некаторыя з нашых «адкрытых» амэрыканскіх ідэалаў ды падтрымаць рост беларускага патрыятызму... Я хацеў-бы яшчэ раз заявіць пра патрэбу амэрыканскага падтрыманьня Беларусі, як нацыі асобнае сваёй моваю, культураю й традыцыямі».* — **Канрэсмэн Джэймс А. Трафікант-малодшы із штату Агаё. Congressional Record, 26 March 1987.**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

НЬЮ-БРАНСЬВІК, Н.-ДЖ.

Сёлетнія 69-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка былі адным з найбольш урачыстых сьвяткаваньняў угодкаў Незалежнасьці Беларусі. Адбылося сьвята 29-га сакавіка ў гор. Нью-Брансьвіку, штат Нью-Джэрзы.

Урачыстасьць пачалася архірэйскай багаслужбай, якую адправіў Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай у суслужэньні духавенства ў царкве Жыровіцкае Маці Божай у Гайленд-Парку. Прыгожа сьпяваў папоўнены харыстамі за Нью-Ёрку хор пад кіраўніцтвам сп. Якуба Сапяжынскага. Уладыка Мікалай красамоўна гаварыў у сваёй казані пра евангельскую навуку ды грамадзкую й нацыянальную працу.

які веў пасьля далей сьвяткавальную праграму. Па малітве, сказанай Уладыкам Мікалаем, і прырачэньні вернасьці амэрыканскаму сьцягу, якое сказала сп-чна Дарота Рыжы, сп. Ю. Азарка прачытаў прывітаньне ад Прэзыдэнта Рэйгана, што было сустрэтае бурнымі воплескамі. Былі прачытаныя таксама прывітаньні ад Нацыянальнае Рады Рэспубліканскіх Этнічных Групаў ды Этнічнае Рады пры Нацыянальным Камітэце Дэмакратычнае Партыі.

Дзень 25 сакавіка абвесьцілі «Беларускім Днём» губэрнатары штатаў Нью-Ёрк, Нью-Джэрзы, Пэнсыльванія, Кантэтыкэт ды інш., а таксама мэры гарадоў, дзе жывуць у большай



*Паказ беларускага народнага адзеньня на Сакавіковым сьвяткаваньні ў Нью-Браньсвіку. (Фота А. Дубягі)*

Сьвяткавальны банкет адбыўся ў балёвай залі найбольшага ў Нью-Брансьвіку гатэлю «Гаят Рыджэнс». Хоць традыцыйна сакавіковыя сьвяткаваньні ладзяцца супольна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, ініцыятарамі, арганізатарамі й гаспадарамі сёлетняга сьвяткаваньня была моладзь, кіраўнікі й сябры АБАМ.

У прыгожай залі на цэнтральным месцы былі разьмешчаныя «Пагоня» работы мастака П. Мірановіча, а збоку — партрэт Міхася Кукабакі, ведамага беларускага вязьня савецкіх турмаў і лягероў прымусовае працы. На сталох ляжалі раскладзеныя для подпісаў пэтыцыі ў абарону М. Кукабакі, пераклады ў ангельскую мову беларускага нацыянальнага гімну ды брашуркі з апісаньнем беларускіх народных строяў, паколькі ў праграме сьвяткаваньня быў паказ беларускае нацыянальнае вопраткі. Ля ўваходу ў залю на стэндах прыцягвалі ўвагу аздобленыя народнай вышыўкай вырабы сп-ні Юлі Андрусышынай, маляваная кераміка ды кніжкі.

Банкет пачаўся кароткай прамовай старшыні АБАМ сп. Юр'я Азаркі, колькасьці Беларусы, у тым ліку Нью-Ёрку й Нью-Брансьвіку.

Сп. Ю. Азарка прачытаў прысланыя ўдзельнікам сьвяткаваньня прывітаньні ад мэра Нью-Брансьвіку, ад прат. А. Яноўскага й Беларускага Кангрэсавага Камітэту ды прывітаў прысутных на залі Беларусаў з Эўропы.

Добры рэфэрат аб значаньні Акту 25 Сакавіка прачытала сп-чна Алеся Кіпель, малады адвакат й старшыня аддзелу БАЗА ў Вашынгтоне.

Ад Галоўнай Управы БАЗА вітаў аўдыторыю сп. Антон Шукелайць. У сваёй прамове ён зьвярнуў увагу на ролю моладзі ў перахоўваньні гістарычнае спадчыны беларускага народу ды перайманьні грамадзкае й палітычнае працы ад старэйшых.

Асаблівая ўвага ў праграме сёлетняга сьвяткаваньня была нададзеная справе абароны вязьня сумленьня Міхася Кукабакі, які цяпер знаходзіцца ў турме ў Віцебску. Сяброўка АБАМ сп-чна Уля Шульжыцкая прачытала інфармацыйны даклад аб долі Кукабакі, Уладыка Мікалай сказаў спэцыяльна прыгатаваную малітву, а сп. Ю. Азарка прадставіў аўдыторыі сп-ню Ліду Драздову, якая ў 1979 г.

*(Працяг на б. 3-й)*

# ПРОПАВЕДЗЬ

## АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ, ПЕРШАГІЕРАРХА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

**на Сакавіковым сьвяткаваньні ў царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Нью-Брансьвіку 29.III.1987 г.**

**«Вы — сьвятло сьвету» (Мц. 5:14).**

Дарагія Браты й Сёстры!

Вітаю ўсіх Вас з нашым вялікім народным сьвятам, Днём 25 Сакавіка, угодкамі Незалежнасьці Беларусі. Жыве Беларусь!

Ад старажытных часоў у людзей сымбалічна ўважалася, што сталае й незгасальнае сьвятло нагадвала перамогу дабра над злом. Незгасальны агонь з даўных часоў быў выдатным сымбалем і шанаваўся ў многіх рэлігійных традыцыях. У хрысьціянскіх сьвятынях на алтары гарыць агонь-сьвятло. Гэта прыпамінае людзям, што дабро мацнейшае за зло, што веда магутнейшая за невуцтва, што Хрыстовае сьвятло разганяе цемру.

У гэтым пераносным значэньні й разумеецца сымбаль сьвятла ў Евангельскай навуцы на дзень сьвятых Айцоў. Ісус Хрыстос і прыраўноўвае веруючых да сьвятла. Ён гэтым прыпамінае нам, што ёсьць у нас, у нашай магчымасьці, здольнасьць адолець зло, праз выгнаньне цемры. Ісус сказаў Сваім вучням: «Вы — сьвятло сьвету». Госпад наш Ісус Хрыстос надарыў Сваіх апосталаў сьвятлом. Пасьля Госпадавага Ўшэсьця ад іх зьзяла праменьне навукі Хрыстовай, якую яны несьлі ў народ.

Сьвятая Царква праслаўляе сваіх выдатных сьвятых сыноў, стаўпоў веры, бо яны несьлі й нясуць у народ сьвятло — добрую весьць — Хрыстовую навуку. А Беларускі Народ мае сваіх айцоў, сваіх народных стаўпоў, што паднялі высака Сьветач — Акт 25 Сакавіка, — на якім запалілі незгасальнае Сьвятло Незалежнасьці Беларусі. Сьвятло гэтае зьзяе моцным блескам у сэрцы кожнае сьвядомае Беларускі й кожнага сьвядомага Беларуса.

Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос сказаў яшчэ апосталам: «Вы — соль зямлі» — словы, якія можна аднесьці й да ўсіх грамадзкіх працаўнікоў. А далей Госпад кажа: «Калі-ж соль згубіць свой смак, чым пасаліць яе? Бо яна ня мае моцы свае, хіба толькі выкінуць яе вон, каб тапталі яе» (Мц. 5:13). Так як соль надае смаку страве і ў нейкай меры ахоўвае ад псаваньня, гэтак і грамадзкія працаўнікі, як тыя апосталы, нясуць сьвятло і ўсьведамленьне ў народ. Калі чалавек страціць сваю нацыянальную сьвядомасьць, якасьць свае заўзятасьці й палкую любоў да свайго народу, тады ён стаецца бясьсільным і будзе патаптаны. І іншыя будуць валодаць ім. Пра гэткіх трапна сказаў нашанівец Сяргей Палуян: «Адарвалі ад роднай глебы, атруцілі здрадай. І іх, тваіх дзяцей, Беларусь, маюць за зброю проці Цябе». Гэта відавочна ўсім нам.

Сьвятарству й правадыром народу Госпад кажа: «Пастыр добры жыцьцё сваё аддае за авечкі» (Ян 10:10). І далей кажа: «Авечкі голас ягоны чуюць, і ён кліча авечкі свае па іменіню, і выводзіць іх. І як ён усіх іх выпусьціць, сьпераду іх ідзе, і авечкі за ім ідуць, бо знаюць голас ягоны» (Ян 10:3-4).

Савецкая прапаганда за ўсякую цану намагаецца зьнячуліць пачуцьцё нацыянальнае ў правадыроў народу, каб яны сталіся наймітамі. Бо-ж «Найміт ня пастыр, каму авечкі не свае; бачыць прыходзячага воўка, пакідае авечкі,.. бо ён найміт» (Ян 10:12-13).

Каб ня стацца наймітам, а быць добрым пастырам, добрым грамадзкім працаўніком, перш за ўсё трэба моцна любіць свой народ, мову й сваю культуру. Асабліва трэба ведаць гісторыю свайго народу. Тады вырабляецца пашана, адданасьць і жаданьне служыць сваёй бацькаўшчыне. Не за грошы, не за выгады, але з пачуцьця задавальненьня служыць свайму народу. Служыць народу — служыць Богу, кажа Мітрапаліт Іларыён.

Служба бацькаўшчыне часта вымагае вялікіх ахвяраў, таму гэтак шмат людзей згніло ў турмах, на ссылках, у псыхушках.

Не паддаўся брутальнаму націску, маральнаму й цялеснаму, наш слаўны Міхал Кукабака, які надалей стаіць за сваю мову беларускую й за правы свайго беларускага народу.

Сумленны грамадзкі працаўнік, добры пастыр ніколі ня здрадзіць свой народ, таму Госпад наш Ісус Хрыстос кажа: «пастыр добры жыцьцё сваё аддае за авечкі».

Гэтта прывяду ўрыўкі з паэмы «Хрыстос Уваскрос!» Сяргея Палуяна:

«Зь вялікім сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народзе! Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную працу. Не давалі табе расьці й разьвівацца. Воцатам чужой культуры зьвільжалі твае сьпячоныя смагай сьвятла вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. І іх, тваіх дзяцей, маюць за зброю проці цябе. Годзе стагнаць ды жаліцца. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную Бацькаўшчыну. Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю. І, поўны сілы й веры, я крычу ўва ўсю моц тваім нівам, лясом і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сыном: — Зь вялікім ствятам віншую! Зь вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народзе. Хутка й ты ўваскрэсьнеш».

Цяперашняе зьняволеньне, зьдзекі над нашым народам — часовыя, гэта Божае выпрабаваньне. Моцна памятайма, замацоўвайма ў сэрцах нашых тое Бог кажа праз прарока Езакілу: «І вазьму вас спаміж народаў, і зьбяру вас з усіх краёў, і прывяду вас да зямлі вашае. І будзеце жыць на зямлі, што Я даў бацьком вашым» (Ез. 37:24, 28).

Усе вы, дарагія мае, сёньня зьбраліся, каб належна адзначыць сьвята 25 САКАВІКА. І тут усе вы — соль зямлі нашае. Памятайма Госпадавы словы: «Калі соль згубіць свой смак,.. яна ня мае моцы».

Няхай-жа нашымі народнымі стаўпамі высака ўзьняты Сьветач 25 САКАВІКА асьвятляе наш жыцьцёвы шлях і незгасальны зьніч Незалежнасьці Беларусі вечна зьзяе блескам, і няхай палкім агнём гарыць у сэрцах нашых любоў да свайго Беларускага Народу.

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг з б. 2-й)*

была на судзе Кукабакі, ды заклікаў падпісваца пад прыгатаванымі пэтыцыямі ў абарону Кукабакі й пісаць Кукабаку лісты ў віцебскую турму.

Працягваючы сьвяткавальную праграму, сп. Ю. Азарка прадставіў прыстуных на залі гасьцей і старшыняў арганізацыяў.

З прывітаньнем ад Згуртаваньня Беларусаў Канады выступіў старшыня Тарантаўскага аддзелу ЗБК сп. Мікола Ганько. Сп-ня Галіна Русак прачытала павітаньне ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча і даўгі сьпіс беларускіх арганізацыяў з Аўстраліі, Эўропы й Канады ды ЗША, якія прыслалі свае прывітаньні.

Сп. А. Шукелайць перадаў прывітаньні ад рэдкалегіі газ. «Беларус» ды заклікаў правесьці традыцыйны збор ахвяраў на газэту (гл. фінансавую справаздачу ў гэтым нумары).

У багатую праграму мастацкае часткі ўвайшлі: паказ народных касьцюмаў, песьні Данчыка ды народны танец у выкананьні ансамблю «Васілёк».

Паказ нацыянальнага адзеньня адчыніла ўступным рэфэратам, а пасьля давала паясьненьні да кожнага касьцюму сп-ня Вера Бартуль. Перад пачаткам дэманстраваньня народнай вопраткі саліст Данчык Андрусышын пад акампанімэнт гітары выканаў песьню «Спадчына» (сл. Купалы, муз. Лучанка), якая вельмі добра ўлівалася ў ход праграмы. Дэманстрацыя касьцюмаў была цудоўным калярытным парадам мастацкага багацьця з розных раёнаў этнаграфічнай Беларусі.

Пасьля Данчык, як заўсёды вітаны гучнымі воплескамі, з уласьцівым яму пачуцьцём выканаў яшчэ чатыры песьні («Жураўлі на Палесьсе ляцяць», «Не за вочы чорныя», «У гушчарах» і на біс «Беларусачку»).

Мастацкую частку завяршыла дынамічная й харэграфічна адшліфаваная кадрыль у выкананьні ансамблю «Васілёк» пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана.

Сьвяткаваньне закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Агульная пахвала маладым арганізатарам сьвяткаваньня была пацьверджаная водгукамі ў мясцовай прэсе ды наяўнасьцяй у залі відэакамэраў, што ўдакумэнтавалі й назаўсёды сьлед пакінулі па гэтай урачыстай, прыгожай гістарычна-культурнай падзеі.

**А. Ш.**

САЎТ-РЫВЭР, Н.-ДЖ.

У нядзелю 22 сакавіка ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру мастачка Ірэна Дутко адчыніла, стаўшую ўжо традыцыяй, мастацкую выстаўку, прысьвечаную Сакавіковым угодкам.

Назаўтра ў царкве імя Сьв. Ефрасіньні Полацкай быў адслужаны малебен, у часе якога беларускія вэтэраны трымалі беларускія й амэрыканскі сьцягі.



*Арганізатары выстаўкі: (сьпераду, зьлева) Ліза Літаровіч, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Людміла Літаровіч, Надзя Кудасава, Людміла Махнюк і Валя Камянкова. Ззаду стаяць зьлева направа: Лявон Літаровіч, Мікалай Дутко і Алег Махнюк. (Фота Жоржа Манцыводы)*

Над арганізацыяй выстаўкі добра папрацавалі мастачкі і немастачкі, мастакі і немастакі: Людміла Махнюк, Надзя Кудасава, Ірэна Дутко, Ліза Літаровіч, Людміла Літаровіч, Валя Камянкова, Алег Махнюк, Леанід Літаровіч, Мікалай Дутко.

На выстаўцы былі паказаныя працы мастакоў і ўмельцаў (у альфабэтным парадку): Іды Батэрворт, нябожчыцы Монікі Даніловіч, Ірэны Дутко, Тамары Кольбы, Надзі Кудасавай, Галіны Русак, Ксавэрага Барысаўца і фатаграфіі Аляксандра Сільвановіча.

Амаль усе ўдзельнікі выстаўкі паказалі свае новыя, вельмі прыгожыя, мадэрныя і клясычныя, зыркія і з прыгашанай каляровасьцю працы. Тэматыка абразоў — разнаякая.

Шмат было вышыванак, гафтаванак ды іншых вырабаў.

У суботу 28 сакавіка на мачце каля гарадзкой управы запалыхаў бел-чырвона-белы сьцяг...

Папаўдні ў залі БГЦ інж. Міхась Бахар адчыніў урачыстую акадэмію, якая пачалася адсьпяваньнем амэрыканскага гімну.

Даклад у ангельскай мове прачытаў сп. Жорж Манцывода, а пабеларуску — паэт Янка Золак. З прамовай выступіў мэр г. Саўт-Рывэру Р. Вылюда. Наступна сп. Бахар зачытаў праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці губэрнатарамі штатаў: Нью-Джэрзы, Іліной, Пэнсыльванія, Нью-Ёрк, а таксама павіншаваньні ад амэрыканскай рэспубліканскай фэдэрацыі (Вашынгтон), Беларускага Кангрэсовага Камітэту, ад БЦР і аддзелу Кангрэсовага Камітэту ў Лёс-Анджэлесе (Каліфорнія).

У мастацкай частцы паэт Міхась Кавыль прачытаў два эпізоды з твору «Із агню ды ў полымя»; былая артыска Ірэна Цупрык з натхненьнем прачытала верш Уладзімера Караткевіча «У

*(Працяг на б. 5-й)*

# ПРАФ. Т. БЭРД ПРА БЕЛАРУСАЎ У ПНР

**Інтэрвію**

***«Беларус»:*** Прафэсар Бэрд, у сьнежні летась Вы езьдзілі зь Нью-Ёрку ў Варшаву на ўрачыстасьць адзначэньня 30-годзьдзя Катэдры Беларускае Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту, чыталі там даклад. На якую тэму?

***Бэрд:*** На тэму газэты «Наша Ніва». Летась, як ведама, мінула восемдзесят гадоў ад выхаду першага нумару «Нашай Нівы», і дата гэтая была адзначаная не толькі ў Менску, але і ў Нью-Ёрку, і ў Варшаве. У Варшаўскім Унівэрсытэце юбілей «Нашай Нівы» ды юбілей Катэдры Беларускае Філялёгіі былі адзначаныя разам. Адбыўся беларусаведны сымпозіюм, на які прыехалі замежныя госьці а ў тым ліку і я. Як Вы ведаеце, я пішу доктарскую дысэртацыю на тэму газэты «Наша Ніва». На гэтую тэму чытаў я і свой даклад у Варшаве.

***«Б-с»:*** Скажэце, калі ласка, у моц якіх акалічнасьцяў Вы зацікавіліся беларусістыкай і вывучылі беларускую мову?

***Бэрд:*** З маладых гадоў я цікавіўся славістыкай, Усходняй Эўропай. У Нью-Ёрку на пачатку 1970-х гадоў пазнаёміўся зь Беларусамі. Меў таксама нагоду ціраз сустракацца зь беларускімі савецкімі пісьменьнікамі. Ньюёрскі Гарадзкі Ўнівэрсытэт, у якім я працую выкладчыкам больш за дваццаць гадоў, мае праграму сустрэчаў зь беларускімі пісьменьнікамі, якія прыяжджаюць дэлегатамі на Гэнэральную Асамблею ААН. Супрацоўнічаю таксама зь беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку. Але мушу прызнацца: дарога яшчэ далёкая, каб добра апанаваць беларускую мову. Вельмі перашкаджае вывучаць яе тое, што няма беларуска-ангельскага і ангельска-беларускага слоўнікаў. Я чуў, што ў Каліфорніі цяпер апрацоўваюцца гэткія слоўнікі.

***«Б-с»:*** Прафэсар Бэрд, быўшы ў Варшаве на сымпозіюме, Вы езьдзілі таксама на Беласточчыну, сустракаліся там зь Беларусамі. Ці маглі-б Вы каротка расказаць пра беларускае жыцьцё Беларусаў у Польскай Народнай Рэспубліцы?

***Бэрд:*** Зь Беларусамі я бачыўся і ў Варшаве, і ў Беластоку, і ў Гайнаўцы. У Варшаве я меў справу больш з акадэмічным асяродзьдзем. Як Вы ўжо сказалі, я езьдзіў туды на беларусаведны сымпозіюм. З таго, хто быў на сымпозіюме, я прыйшоў да высновы, што беларускаю справай цікавяцца прадстаўнікі ўсіх трох пакаленьняў Беларусаў: старэйшага, сярэдняга й маладога. Наагул беларускае жыцьцё ў Варшаве заўважаецца зусім выразна. Калі я там быў, дык бачыў на вуліцах афішы пра выстаўку менскага сатырычнага часапісу «Вожык». Вялікае зацікаўленьне выклікаў і сымпозіюм, які быў прысьвечаны пытаньням беларускае лінгвістыкі й гісторыі.

Беларуская Філялёгія пры Варшаўскім Унівэрсытэце — вельмі жывы й энэргічны цэнтар грамадзкага жыцьця, беларускага духу ў Варшаве.



*Праф. Томас Бэрд і настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі з вучнямі Беларускага ліцэю імя Б. Тарашкевіча ў Гайнаўцы.*

Беларуская справа ў Варшаве мае выдатных працаўнікоў у асобах др. Аляксандра Баршчэўскага, кіраўніка Беларускае Філялёгіі, і дэкана Альбэрта Барташэвіча. Абодвы яны вельмі шмат робяць для беларускае культуры ў Польскай Народнай Рэспубліцы.



*Праф. Бэрд у Белавескім Музэі (дырэктар музэю — Пётра Байко). Два зубры — адзін з Амэрыкі.*

Кадры выкладчыкаў беларускае мовы й літаратуры, якія рыхтуе Варшаўскі Ўнівэрсытэт, гэта, я сказаўбы, наймацнейшая гарантыя цяглясьці беларускае культуры ў Польшчы.

Калі я быў на Беласточчыне, наведваў там беларускія школы, у тым ліку й беларускі ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Гайнаўцы, дык бачыў, якую вялікую работу робяць выпускнікі Беларускае Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту. Я ўдзячны прафэсару Баршчэўскаму і карэспандэнту газэты «Ніва» Віктару Рудчыку, якія памаглі мне азнаёміцца зь Беластоцкім Краем — прыгожая зямля, цудоўныя людзі!

*(Заканчэньне на б. 6 )*

# ПЕСЬНІ СЯРГЕЯ САКАЛОВА

*(Працяг з папярэдняга нумару, у якім замешчаныя 5 песьняў і ўводны артыкул)*

### Балада пра князя

*Жыў ды быў на сьвеце стольны князь —*
*Так легенда цьвердзіць, а ня я, —*
*Хронік мудрагелістая вязь*
*Не данесла нам яго імя.*
*Ён з пагардай ставіўся да тых,*
*Хто у замках век адбаляваў,*
*Еў і піў з начыньняў залатых*
*Ды для ўцехі ў пушчах паляваў.*
*Час быў неспакойны і цяжкі,*
*Ня было каму з'араць ральлю.*
*З трох бакоў, ня меней, чужакі*
*Асаджалі княжую зямлю.*
*З раніцы да вечара ў сядле —*
*Ні сабе спачынку ні людзям.*
*Толькі-б даць спакой сваёй зямлі*
*Толькі-б вольна уздыхнуць грудзям.*
*Восень зацягнулася ў той год,*
*Сьнег зьмянялі цёплыя дажджы,*
*Калі князь выходзіў у паход,*
*Каб сустрэць чужынцаў ля мяжы.*
*Важкі меч і лёгкая страла,*
*Часта сьціраваныя ў яго,*
*Выкінуць ня здолелі зь сядла*
*Нашага гэроя да таго.*
*Але гэтым разам, як праклён,*
*Лёс рукі варожай не адвёў,*
*І упаў на дол халодны ён*
*Між засохлых горкіх палыноў.*
*Як гарэх, раструшчыўся шалом,*
*Крутануўся сьвет нібы ў віры,*
*Князя з акрываўленым чалом*
*Ратавалі з бою ваяры.*
*Вынесьлі, вадой абмылі твар,*
*Белым палатном спынілі кроў.*
*А у сечы княжацкі штандар*
*Стаў здабычай прышлых ваяроў.*
*І ўцякалі княжыя палкі,*
*Ног не адчувалі пад сабой.*
*Задніх высякалі чужакі*
*Ды хіліўся да сканчэньня бой.*
*І тады падняўся князь зь зямлі,*
*Белыя павязкі зьняў з чала.*
*Як штандар яны ў руках былі,*
*Як праменьні зыркага сьвятла.*
*Кроў лягла чырвонай паласой*
*Цераз палатна сьляпучы сьнег,*
*І схапіўся зноў за зброю вой,*
*І чужак заснуў у кургане…*
*Жыў ды быў на сьвеце*
*стольны князь —*
*Так легенда цьвердзіць, а ня я, —*
*Хронік мудрагелістая вязь*
*Не данесла нам яго імя.*

### Песьня пра Начу

*Так бывае, што далёка лёс закіне,*
*І здараецца, што нельга нам іначай,*
*Ці сьнягамі зьзяюць горныя вяршыні,*
*Ці пустэльні каля ног пяскамі плачуць.*

*Я тады заплюшчу вочы на хвіліну,*
*Я да родных берагоў тады вярнуся,*
*Далячу, як птушка, думкаю адзінай*
*У куточак маёй любай Беларусі.*

*Той куток — гэта ціхая Нача,*
*Спракаветная ліпа ля школы,*
*Той куток — гэта сьвет мой дзіцячы,*
*Сьвет чаромхі і звонкіх вясёлак.*

*Дагарае наша вогнішча ўночы,*
*І чарнее перапаленае вецьце,*
*І зьняможана расплюшчвае вочы*
*У чужым краі чужынскае дасьвецьце.*

*І зьвіняць прыгадак сонечныя плыні,*
*І кіпяць яны, бо нельга нам інačай,*
*Бо жыве маё блакітнае Прыдзьвіньне*
*І чаромхамі і ліпамі і Начай.*
*Дзе дажынкі па вуліцах скачуць,*
*Вербалозы сьхіляюцца долу…*
*Той куток — гэта сьвет мой дзіцячы*
*Сьвет чаромхі і звонкіх вясёлак.*

### Песьня пра Грунвальд

*Навостраны халодныя клінкі*
*Яшчэ ад прамінулае начы.*
*Пагрозьліва чакаюць крыжакі,*
*Пакуль аголім мы свае мячы.*
*Ну, што-ж — нясі мяне уперад, верны конь,*
*мой верны конь, мой верны конь,*
*Няхай крывёй гарачаю заліта скронь,*
*Нясі, мой конь, цераз агонь.*

*Ня трэба азірацца наскаку*
*Натое, каб ня плесьціся ў хвасьце,*
*І меч табе укладзены ў руку —*
*Вярнуцца са шчытом ці на шчыце.*
*Таму нясі мяне уперад, верны конь,*
*мой верны конь, мой верны конь,*
*Няхай крывёй гарачаю заліта скронь,*
*Нясі, мой конь, цераз агонь.*

*Зьвіняць мячы, барвеюць мурагі*
*Ды крумкаюць спалохана крукі.*
*Харугві гінуць, падаюць сьцягі,*
*Ды мужна б'юцца з намі крыжакі.*
*Але нясі мяне уперад, верны конь,*
*мой верны конь, мой верны конь,*
*Няхай крывёй гарачаю заліта скронь,*
*Нясі, мой конь, цераз агонь.*

*Яшчэ крыху, яшчэ адзін кідок,*
*І кола атачэньня — як пятля.*
*Няхай яны крычаць што зь імі Бог,*
*А з намі Беларуская Зямля.*
*І зноў нясі мяне уперад, верны конь,*
*мой верны конь, мой верны конь,*
*Няхай крывёй гарачаю заліта скронь,*
*Нясі , мой конь, цераз агонь.*

### Прыстанкі

*За сьпіною прыстанкі і бразгат дзьвярэй у каморах,*
*Мацюкі канваіраў і нары адны на траіх,*
*А наперадзе сьляць незнаёмыя пушчы і горы*
*У засьнежаных кедравых футрах сваіх.*

*Я валюся у сьнег і ляжу у халодным сумёце.*
*Паднявольным ня быў і памерці такім не хачу.*
*Лепш ад кулі сканаць, зьнярухомець на лагерным дроце,*
*Лепш аддаць сваё цела на зьдзек крумкачу.*

*Пахавальнаю песьняй завея ахутвае плечы,*
*Вартавыя на вышках пра цёплае мараць жытло.*
*І кашуля — на дрот, і адчайны скачок у цямрэчу,*
*Мой скачок у цямрэчу сягоньня — скачок на сьвятло.*

*Дык ратуйце-ж мяне, здратаваныя катаргай ногі,*
*Замятай, завіруха, гарачы скрываўлены сьлед.*
*Тут чужая зямля, тут чужыя навокал парогі,*
*Тут нямее надзея, сказаў-бы напэўна паэт.*

*Толькі мы не паэты. «Варожаю, чорнаю зграяй»*
*Ахрысьціў нас чужынец і з пальцамі выраў пяро.*
*Беларусь, мая Маці, ты чуеш, як мы дагараем?…*
*І зігіць наша кроў на варожых руках, як таўро.*

*Ня спыняйцеся, людзі, зірнеце на вашыя рукі,*
*На далоні суседзяў, знаёмых, сяброў і гасьцей.*
*Што-ж спыніліся вы, мае родныя дзеці і ўнукі?*
*Што-ж спыніліся вы? Ну, вядома, спыніцца прасьцей…*

*Брэх сабак за сьпіной… Хто ўратуе і хто абароніць?*
*Друк кедровы ды глыз ды надзея жывых.*
*Дык ня зьнішчыць пагоняй таго, хто жыве пад Пагоняй,*
*Хто нясе яе ў сэрцы, параненым сэрцы сваім.*

### Алена

*Прысьвячаю сваёй жонцы.*

*Я сачу зарапад быццам вечнасьці бег,*
*Гэты зьменлівы сьвет, ён умоўны да зьдзіву.*
*Ты прыйшла да мяне, як валошкавы сьнег,*
*Ты прыйшла да мяне, прыгажосьць і маўклівасьць.*

*Як сама чысьціня, як сьвятло і цяпло,*
*Валасы, нібы ноч, ападаюць на плечы.*
*Скуль зьявілася ты, што цябе прывяло*
*Ў гэты прывідны сьвет, дзе ўсё так недарэчы?*

*Можа зорка зьляцела з сусьветаў чужых,*
*Не пасьпеўшы згарэць, ня убачыўшы тлену?*
*Але толькі адкуль у цябе, адкажы,*
*Гэта імя такое зямное — Алена?*

## «МРОЯ» БЕЗ АПАРАТУРЫ

Беларуская рок-музыка, паводля газэты «Чырвоная Зьмена» (28.I.87; арт. У. Крамушчанкі — «Мроя» і яе вытокі), «бярэ свой пачатак з такіх музычных калектываў, як 'Дойліды', 'Панібраты' (60-70-я гады)». Калектывы гэтыя, кажа Крамушчанка, «не пабаяліся адыйсьці ад стандартаў іншаземнай моды і закласьці пачатак сваёй школы ў гэтым рэчышчы». Прыхільнікі гэтае «школы» перакананыя, што «'смачныя' гукі роднай мовы, выразнае і сьпеўнае беларускае вымаўленьне выдатна стасуюцца да самых сучасных музычных напрамкаў».

Традыцыю 60-70-х гадоў спрабуе працягваць цяпер рок-група «Мроя». «Пачаткам 'Мроі', — піша Крамушчанка, — была думка аб тым, што досыць беларускаму юнаку ці дзяўчыне карыстацца іншаземнымі цацкамі там, дзе варта мець свае. Думка аб тым, што ёсьць ім што сказаць адзін аднаму сродкамі той-жа рок-музыкі, паколькі яна такая папулярная. Думка аб тым, што добрыя традыцыі павінны мець працяг ува ўсіх магчымых кірунках (традыцыі нацыянальнай культуры таксама).»

Рок-група «Мроя», як даведваемся з «ЧЗ», існуе ад 1981 году, калі яна паўстала ў Менскім Музычным Вучылішчы. Склад групы ад таго часу не зьмяніўся: Лявон Вольскі — вакал, клявішныя; Юрась Ляўкоў — вакал, бас-гітара; Алег Дземідовіч — ударныя; Уладзімер Давыдоўскі — вакал, лідэр-гітара.

Хлопцы з «Мроі» маюць аднак цімала цяжкасьцяў на сваім шляху. Дом Літаратара, да якога яны прыпісаныя, «пакуль ня выдзеліў ніводнага рубля на належнае абсталяваньне групы». Няма за што дый няма дзе купіць патрэбную апаратуру.

## «АБУДЖАЦЬ ІНІЦЫЯТЫВУ Ў МАСАХ»

У сувязі з новым курсам кампартыі на больш адкрытае публічнае абмяркоўваньне праблемаў, на паседжаньні прэзыдыюму праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў БССР былі абмеркаваныя канкрэтныя пытаньні палепшаньня стану нацыянальнае культуры, упасобку пашыраньня беларускамоўных выданьняў і навучаньня беларускае мовы.

На паседжаньні была выказаная прапанова «ўвесьці выкладаньне беларускай мовы зь першага класу, пазбавіць бацькоў права вырашаць пытаньне вывучэньня беларускай мовы ў школе (г. зн. пытаньне аб «вызваленьні» ад беларускае мовы — рэд. «Б-са»), увесьці выкладаньне гуманітарных прадметаў у школах, тэхнікумах і ВНУ на беларускай мове».

Удзельнікі паседжаньня, як сказаў у сваім падсумаваньні спрэчак У. Калесьнік, гаварылі аб тым, што трэба «апэляваць да кіруючых органаў і прымаць адпаведныя законы», а таксама «арганізоўваць грамадзкую думку». «Калі мы ня будзем абуджаць ініцыятыву ў масах, — сказаў Калесьнік, — будзе нараджацца адваротнае — бяздухоўнасьць і абыякавасьць». («ЛіМ», 26.IX.86).

## ХАРАКТАРЫСТЫКА ДАГАРБАЧОЎСКАГА ПЭРЫЯДУ

Паводля 26-х супрацоўнікаў Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, якія ў газэце «Літаратура і Мастацтва» (13.III.87) падпісалі пратэст («З нашай маўклівай згоды?») супраць затапленьня паўночных раёнаў Віцебшчыны пад штучнае вадасховішча, гады брэжнеўска-андропаўска-чарненкаўскага панаваньня (1964-1985 гг.) былі «часамі эканамічнага і духоўнага застою грамадзтва, калі занядбаньне прынцыпаў дэмакратызму і галоснасьці, вузкая ведамаснасьць у гаспадараньні прывялі да таго, што чалавек быў практычна пазбаўлены права вырашаць лёс сваіх рэк, лясоў, гарадоў і вёсак, помнікаў гісторыі і культуры — у выніку чаго перастаў адчуваць сябе гаспадаром на зямлі».

Цікава, ці ў духу гэтае характарыстыкі будзе перапісаная гісторыя дагарбачоўскага 20-годзьдзя, як гэта, на добры лад, павінна было-б быць зроблена ў грамадзтве «навуковага» сацыялізму.

## «ЛІСТЫ ДА ГАРБАЧОВА»

### НОВЫЯ ДАКУМЭНТЫ З САВЕЦКАЕ БЕЛАРУСІ

Выданьне Згуртаваньня Беларусаў Вялікобрытаніі (The Association of Byelorussians in Great Britain, 52 Penn Road, London N7 9REЛёндан, 1987, 18 б.

Вялікага фармату брашюра зьмяшчае: уводнае слова «Ад выдаўцоў» і расейскія тэксты двух лістоў да Гэнэральнага Сакратара ЦК кампартыі Савецкага Саюзу М. Гарбачову.

Першы ліст напісаны ад імя 28-х беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў, артыстаў, навукоўцаў у справе абароны беларускае мовы й культуры.

Ліст, датаваны 15 сьнежня 1986 г., мае ў сабе «ДАДАТАК. Комплекс прапановаў для карэннага палепшаньня стану роднае мовы, культуры й патрыятычнага ўзгадаваньня ў Беларускай ССР». У ліку асобаў, што падпісалі ліст — народныя пісьменьнікі Беларусі: Пімен Панчанка, Васіль Быкаў і Янка Брыль.

Другі ліст, «адкрыты», напісаў Алег Бембель, аўтар самвыдавецкае працы «Роднае слова й маральна-эстэтычны прагрэс» (гл. «Беларус» № 328) аб тым, як прайшло слуханьне справы Бембеля аб выключэньні яго з партыі на паседжаньні Камітэту Партыйнага Кантролю. Да свайго ліста Бембель далучыў тэкст беларускага вершу «Духоўнаму брату Пятра І».

Газэта »Беларус», пачынаючы ад наступнага нумару, выдрукуе поўныя тэксты гэтых абодвух лістоў у беларускім перакладзе.

## М. КУКАБАКА АДМОВІЎСЯ АД ПАКЛЁПУ

Паводля паведамленьня брытанскае праваабароннае арганізацыі Кэстан Коледж, беларускі іншадумец Міхал Кукабака трымаецца ўладамі ў Віцебскай турме за тое, што адмовіўся падпісаць прызнаньне, што ён быў «зьведзены з правільнага шляху Сахаравам ды іншымі дысыдэнтамі». Заміж таго, каб даць свой подпіс пад гэткім непраўдзівым цьверджаньнем, Кукабака напісаў яшчэ раз заяву аб дазволе яму выехаць з СССР. Ня маючы сваякоў на захадзе, ён просіць пасылаць яму запросіны эміграваць на Захад беспасярэдне ў Віцебскую турму на адрас:

USSR / 210000
Byelorussian SSR
g. Vitebsk
ul. Gagarina,
D.S., Uchr. V 2h / 15/IZ 2
Kukabaka Mikhail Ignatavich

## БССР НЯ МАЕ СВАІХ ПІШУЧЫХ МАШЫНАК

Савецкая Беларусь мае дзяржаўнасьць і месца ў Аб'еднаных Нацыях, але ня мае пішучых машынак зь беларускім альфабэтам. Двух мянчанаў пажаліліся нарэшцэ ў газэце «Літаратура і Мастацтва» (16.I.87), што гэтай нястачай трэба нешта рабіць.

«Пэўна, многім знаёма пачучьцё, — піша мянчанін І. Сінчук, — зь якім друкуеш беларускі тэкст на пішучай машынце. Пішаш і злуешся: няма ў клавіятуры беларускіх літар 'і' і 'ў'. І думаеш: пара, даўно пара ў цэнтралізаваным парадку вырашыць пытаньне зь пішучымі машынкамі зь беларускім алфавітам. Усяго-ж дзьвюх літараў не хапае ў машынках, а праблем — вунь колкі!»

Другі мянчанін, М. Васілюк, калі одно сталічнае бюро паслугаў адмовілася перадрукаваць яму артыкул, напісаны пабеларуску, напісаў ліст у газ. «Вячэрні Мінск» з запытаньнем: «дзе ў беларускай сталіцы можна надрукаваць на пішучай машынцы артыкул на беларускай мове?» Да газэты-ж «ЛіМ» Васілюк зьвярнуўся з гэткім пытаньнем: «Чаму ў сталіцы Беларусі цяжка, проста немагчыма надрукаваць тэкст на беларускай мове?»

Цікава было-б пачуць адказ на гэтае пытаньне ад газэты «Голас Радзімы», якая гэтак ахвоча тлумачыць эмігрантам што, як і чаму дзеецца на Беларусі.

## БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ КАМПЮТЭРЫ Ў АМЭРЫЦЫ

На амэрыканскім рынку зьявіліся кампютэрныя праграмы з поўным наборам беларускіх шрыфтоў розных формаў і калібраў. Дзякуючы гэтаму на кампютары («словапрацэсары») можна набіраць самыя розныя тэксты, упрыгожваць іх графічна, навет вырысоўваць адмысловыя загалоўкі, графікі, выпраўляць памылкі ў працэсе набору, рабіць зьмены, і тут-жа мець друкаваны адбітак для афсэтнага друку. Ужо колькі нашых суродзічаў набылі сабе гэткія сучасныя «пішучыя машынкі».

## ЗЬМЕНЫ Ў ЦК КПБ

Першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі Мікалай Сьлюнькоў (год нар. 1929) быў вызвалены ад сваіх абавязкаў у студзені сёлета ў сувязі зь пераходам на парцу ў Сакратарыяце ЦК КПСС. Сьлюнькоў стаўся таксама кандыдатам у члена Палітбюро.

Ягонае-ж месца ў кампартыі Беларусі заняў Яўхім Яўсеевіч Сакалоў (год нар. 1926), Беларус, які ад 1977 г. быў на становішчы першага сакратара Брэсцкага абкому партыі.

### ЛІСТ ДА ГАРБАЧОВА

Беларускі савецкі пісьменнік Алесь Адамовіч на прэсканфэрэнцыі ў Заходнім Бэрліне 3-га сакавіка сёлета сказаў, што культурныя дзеячы Беларусі — пісьменьнікі, мастакі, музыкі — напісалі ліст Гарбачову пра пагрозу існаваньню нацыянальнае мовы ў Беларускай рэспубліцы. Пасьля гэтага ў Менск прыяжджала з Масквы камісія. Ал. Адамовіч выказаў спадзяваньне, што будзе зболышанае вывучэньне беларускае мовы ў школах ды павялічаная роля нацыянальнае мовы ў афіцыйным ужытку.

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ?

Паводля неафіцыйных вестак зь Беларусі, у БССР пагаворваюць пра магчымасьць беларусізацыі, як выніку гарбачоўскае «перабудовы» й аманганьняў беларускага актыву. Праблема аднак, кажуць некаторыя, будзе з кадрамі: ці стане людзей, якія валодаюць беларускай моваю, каб забясьпечыць належнае ўжываньне яе ў публічным жыцьці й справаводзтве.

Перашкодай беларусізацыі, паводля некаторых, сталіся крывавыя антырасейскія дэманстрацыі ў сталіцы Казахстану Алма-Аце, пасьля якіх нацыяналізм нерасейскіх народаў быў абвешчаны ў Маскве (неафіцыйна) галоўным ворагам «перабудовы».

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг з б. 3-й)*

векавечнай Бацькаўшчыне» і два вершы іншых падсавецкіх паэтаў; паэт Янка Золак прачытаў апрацаваны ім «Плач Яраслаўны» із «Слова аб палку Ігаравым», а сп-ня Вілачка Ляўчук выступіла з сваімі вершамі і песьняй, якую яна ў камічнай манеры і прасьпявала...

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. **М. К.**

### РЫЧМАНД-ГІЛ, Н.-Ё.

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку сьвяткавала ўгодкі незалежнасьці БНР 29 сакавіка. Урачыстасьць пачалася ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага багаслужбай, якую адправіў а. Усевалад Шэмяціла. Прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. С. Жамойды. У часе малебну за Беларускі Народ стаяла сьцяжная варта (сп. сп. К. Мярляк і Ул. Арашкевіч).

Сьвяточная акадэмія адбылася ў памешканьні Грамадзкага Цэнтру пад царквой. Вёў праграму сп. К. Мярляк, старшыня БАА. Па выкананьні амэрыканскага гімну сп. Мярляк сказаў уступное слова, была ўшанаваная хвілінаю цішыні памяць гэроям, што аддалі свае жыцьцё ў працы й змаганьні за незалежнасьць Беларусі.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў др. Вітаўт Кіпель. Дакладчык гаварыў пра пэрыяд «Нашай Нівы», аб ідэйна-палітычнай і грамадзка-культурнай працы нашаніўцаў, якая прывяла да абвешчаньня незалежнасьці БНР Актам 25 Сакавіка. Гаварыў др. Кіпель і аб беларускай эміграцыі ў ЗША пэрыяду 1920-х гадоў ды аб супраціве русыфікацыі ў сучаснай БССР. Закончыў свой даклад др. Кіпель аналізам сёньняшняе палітыкі Масквы, палітыкі гэтак званае «галоснасьці», да якое трэба ставіцца вельмі сьцептычна, сказаў дакладчык, бо канчальная мэта Масквы — русыфікацыя — застаецца нязьменнай.

Былі прачытаныя праклямацыі губэрнатарамі Дня Незалежнасьці Беларусі у штатах Нью-Ёрк, Пэнсыльванія, Нью-Джэрзы, Іліной.

Віталі сход асабіста сп. В. Цярпіцкі, заступнік старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту, і сп. А. Міцкевіч ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Афіцыяльная частка закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Пасьля адбыўся банкет, у часе якога сп. Мярляк вітаў зь 93-мі ўгодкамі жыцьця сп. Янку Казьлякоўскага, былога шматгадовага старшыню царкоўнае ўправы парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага. Пры гэтым сп. Мярляк прачытаў прывітаньне сп. Казьлякоўскаму ад Прэзыдэнта Рэйгана й сп-ні Нэнсы Рэйган. За прывітаньні дзякаваў сп. Рыгор Казьлякоўскі, сын, бо бацька дзеля нядужасьці ня здолеў прыбыць на сьвяткаваньне.

Банкет прайшоў з удачаю, людзі мелі нагоду і пачаставацца і пагаварыць. Сп. Мярляк дзякаваў удзельнікам за прыбыцьцё, а жанчынам — за добрае прыгатаваньне абеду. **В. Ш.**

### КЛІЎЛЕНД, АГАЁ

Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Кліўленьдзе ладзіў сьвяткаваньне 69-х угодкаў незалежнасьці БНР 29 сакавіка. Праграма пачалася багаслужбай у царкве Жыровіцкае Божае Маці, адпраўленай настаяцелем а. Міхасём Страпком і Мітр. Прат. Аляксандарам Радэнковічам з сэрбскай царквы. Папаўдні ў царкоўнай залі адбыўся супольны абед.

Урачыстая частка праграмы пачалася адсьпяваньнем супольна амэрыканскага гімну. Старшыня аддзелу БАЗА Янка Раковіч прывітаў прысутных з днём сьвята. Галоўны даклад прачытаў др. Вітаўт Кіпель з Нью-Джэрзы. Ён гаварыў пра нашаніўскі пэрыяд, які спрычыніўся да абвешчаньня Акту Незалежнасьці Беларусі, расказаў пра першыя ўгодкі сьвяткаваньня незалежнасьці на эміграцыі ды паінфармаваў аб цяперашнім нацыянальным уздыме ў Беларусі й змаганьні за правы беларускае мовы.

Удзельнікаў сьвяткаваньня вітаў прадстаўнік ад мэра Кліўленду, які прачытаў праклямацыю Дня Беларускае Незалежнасьці й паведаміў, што ў гэты дзень быў вывешаны беларускі сьцяг над гарадзкою ўправаю. З прывітаньнем выступіў таксама старшыня Амэрыканскага Этнічнага Руху штату Агаё.

Далей былі прадстаўленыя госьці ды прачытаныя прывітаньні ад Прэзыдэнта ЗША Рэйгена, старшыні Рады Рэспубліканскіх Нацыянальных Групаў з Вашынгтону ды беларускіх арганізацыяў: Галоўнай Управы БАЗА, Згуртаваньня Беларусаў Канады, беларускіх арганізацыяў Чыкага, Лёс-Анджэлесу. Затым жаночы хор «Васілёк» у народных строях пад акампанімэнт Лены Лук'ячнык прасьпяваў добра тры песьні: «Я ад вас далёка», «Ручнікі» й «Роднае Слова». У гэты-ж дзень адбылася выстаўка беларускага народнага мастацтва. Праграма закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. У ўдалым праўдзеньні сёлетняй праграмы вялікі ўдзел узяла моладзь, заля была перапоўнена.

Па заканчэньні праграмы адбылося ўшанаваньне аўтаркі нававыданае кніжкі «У пошуках Праўды — апавяданьні й аповесьці» Аляксандры Саковіч (Іны Каханоўскай), жыхаркі Кліўленду. Чытачы мелі нагоду атрымаць аўтограф пісьменьніцы. **К. П.**

### ЧЫКАГА, ІЛ.

Сьвяткаваньне дня Незалежнасьці БНР, наладжанае Беларускім Каардынацыйным Камітэтам, адбылося ў нядзелю 29 сакавіка.

Беларускае Радыё сп. Жызьнеўскага ў сваёй перадачы 22 сакавіка зрабіла ўсё, каб заахвоціць беларускае грамадзтва ўзяць удзел у гэтай патрыятычнай імпрэзе, на якую Беларусы Чыкага запрашаюць прадстаўнікоў мясцовых і дзяржаўных урадаў, як і кіраўнікоў этнічных арганізацыяў.

На пярэдадні сьвяткаваньня адчынілася беларуская інфармацыйна-мастацкая выстаўка ў фае Чыкагаўскага Грамадзкага Цэнтру, якая трывала ад 23 сакавіка да 10 красавіка.

Наш беларускі бел-чырвона-белы сьцяг красаваўся на гарадзкой управе 25 сакавіка разам з амэрыканскім і гарадзкім сьцягамі. Губэрнатар штату Іліной Джэймс Томпсан выдаў праклямацыю, якою дзень 25 сакавіка абвяшчаўся Днём Беларускае Незалежнасьці ў штаце Іліной. Мэр гораду Чыкага

*(Працяг на б. 6-й)*

## ДР. ЮРКА КІПЕЛЬ



Доктар мэдыцыны Юрка Кіпель скончыў Ратгэрскі Штатны Ўнівэрсытэт у галіне біялягічных навукаў, адначасна здаўшы экзамен на пэдагагічным факультэце. Год выкладаў біялёгію й фізыку ў сярэдніх школах штату Нью-Джэрзы. Пасьля паехаў на мэдычную вучобу ў Унівэрсытэт Норэста ў Мэксыцы. Здаўшы перад-мэдычныя залікі ў Мэксыцы, Юрка варочаецца ў Амэрыку і заканчвае мэдычную навуку ў Нью-Ёрку. У студзені сёлета др. Юрка Кіпель здаў штатны экзамен і атрымаў права практыкі. Цяпер ён адбывае рэзыдэнтуру і спэцыялізацыю ў дзіцячых хваробах у Ньюджэрзыйскім Штатным Унівэрсытэцкім Шпіталі ў горадзе Ньюўарку.

Зь беларускім жыцьцём Юрка Кіпель зьвязаны ад маленства: ён скончыў беларускую сыботнюю школу пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, удзельнічаў ува ўсіх школьных праграмах, прыслужваў пры алтары ў гэтым-жа саборы блізу дзесяток гадоў, быў актыўным сябрам арганізацыі моладзі, супрацоўнічаў у часапісе «Беларуская Моладзь». Актыўны скаўт, Юрка быў удзельнікам ўсеамэрыканскага джэмбары ды быў у кантынгенце амэрыканскіх скаўтаў на Сусьветным Джэмбары ў Нарвэгіі. Ён заўсёды падкрасьляў сваю беларускасьць і веданьне мовы бацькоў. Дзейны Юрка і ў танцавальным гуртку «Васілёк», сябрам якога ён стаўся блізу 18 гадоў таму ды танцуе ў «Васільку» да сёньняшняга дня.

### ВЕЧАР У НЬЮЁРКСКАЙ ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

10 сакавіка ў Ньюёркскай Публічнай Біліятэцы адбылося прыняцьцё ў гонар пачынальнікаў Славянскага Аддзелу Бібліятэкі — былога пасла ў Маскве Джорджа Кэнана і дырэктара Славянскага Аддзелу на працягу 40 гадоў Аўраама Ермалінскага (ушанаваньне прыняў ягоны сын). З гэтае нагоды Бібліятэка арганізавала выстаўку рэдкіх славянскіх друкаў, сярод экспанатаў якое — фрагмэнт праскага выданьня Бібліі Францішка Скарыны. Беларусаў на ўрачыстасьці рэпрэзэнтавалі др. Вітаўт Кіпель і сп-ня Зора Кіпель, намесьніца дырэктара Славянскага Аддзелу.

### «ЗВАЖАЙ» №I (45)

Нумар набраны новым, лепшым, шрыфтам. У нумары: К. Акула — Маскоўскі акупацыйны рэжым супраць бацькі беларускага адраджэньня; ЛМ-УЦ — Кошт савецкае імпэрыі; Язэп Барэйка — Да 525-х угодкаў нараджэньня вялікага князя літоўскага Аляксандра Казімеравіча; ВС-УЦ — Ля вытокаў ленінскае нацыянальнае палітыкі; ілюстраваная хроніка.

## ПРАФ. БЭРД ПРА БЕЛАРУСАЎ

*(Заканчэньне з б. 3-й)*

***«Б-с»:*** Вярнемся, можа, цяпер на часінку да газэты «Наша Ніва». Як Вы ацэньваеце значаньне «Нашай Нівы» ў гісторыі беларускага адраджэньня?

***Бэрд:*** Газэта «Наша Ніва», наколькі я арыентуюся, гэта яшчэ далёка ня вывучаная старонка гісторыі Беларусі. Шмат фактаў пра «Нашу Ніву» ведама: хто яе выдаваў, колькі карэспандэнтаў яна мела; ведамы таксама літаратурны бок гэтае публікацыі: паэты, празаікі, іхныя творы. Але «Наша Ніва» ўсё яшчэ застаецца нявывучанай з згледзішча ўплыву газэты на станаўленьне беларускае адраджэнскае ідэялёгіі, палітычнае думкі.

Беларускі рух у другой палавіне 19-га стагодзьдзя пачынаўся як рух літаратурны, а ў 1917 годзе завяршыўся як праграма палітычна-дзяржаўнага будаўніцтва. Паўстае пытаньне: якія фактары паўплывалі на трансфармацыю гэтага руху? Якую ролю ў гэтай трансфармацыі адыграла газэта «Наша Ніва», галоўны беларускі друкаваны орган пэрыяду 1906-1915 гадоў? Прасачыць гэтую зьмену, устанавіць, якую ролю выканала «Наша Ніва» ў выпрацаваньні й пашырэньні ідэі нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі я і паставіў сабе за мэту.

***«Б-с»:*** Дык дазвольце пажадаць Вам, праф. Бэрд, як найбольшае ўдачы ў гэтым Вашым праекце. Вельмі дзякуем Вам за інфармацыю, якою Вы падзяліся з нашымі чытачамі. І бывайце здаровы!

***Бэрд:*** Дзякую Вам таксама. Мае найлепшыя пажаданьні чытачом «Беларуса».

## ДАКТАРАТ Ю. ТУРОНКА

Мгр. Юры Туронак, ведамы сваімі працамі зь гісторыі беларускага палітычнага руху XX ст., абараніў пры Варшаўскім Унівэрсытэце доктарскую дысэртацыю на тэму «Беларусь у часе акупацыі. 1941-1944 гады». Дысэртацыя была вельмі добра ўспрынятая васьміасабовай камісіяй Польскае Акадэміі Навукаў. Абарона прайшла пры запоўненай залі й вялікім зацікаўленьні аўдыторыі. Мгр. Туронку быў аднагалосна прызнаны тытул доктара гістарычных навукаў.

Вітаем др. Юр'я Туронка з выдатным дасягненьнем ды зычым далейшае плённае працы на ніве беларусаведы.

### БЕЛАРУСКАЯ КРАЁВАЯ АБАРОНА
#### Альбом

Гэты выдатна апрацаваны альбом уніформаў і адзнакаў Беларускае Краёвае Абароны, укладзены маёрам У. Шнэкам, выдадзены ў 1984 г. ў Аўстраліі (вельмі лімітаваным тыражом) на адзначэньне 40-х угодкаў пакліканьня БКА. У ўводным слове да альбому ўкладальнік адзначае, што галоўная мэта выданьня — наглядна паказаць вонкавы выгляд жаўнераў БКА усіх рангаў, ступеняў і спэцыяльнасьцяў, з дадаткам некаторых узнагародаў за баёвую адвагу й самаахвярную працу.

Альбом складаецца з 60 каляровых табліцаў уніформаў, эмблемаў, дыплёмаў, рангавых адзнакаў (крыжы, пагоны, узнагароды) ды 14 табліцаў тэкстаў і агульна-беларускіх эмблемаў.

Прадмова ў беларускай і ангельскай мовах напісаная кіраўніком Беларускага Вызвольнага Фронту ген. Дзьмітрам Касмовічам.

### *КРЫТЫКІ ВЫЧЭКВАЮЦЬ*

«Апошні час мы шмат гаворым пра неабходнасьць зьменаў у нашым жыцьці. Аднак, як ні дзіўна, наша крытыка не сьпяшае зьмяняцца і ўсё нечага чакае». («ЛіМ», 13.III.87).

## ДЗЕЦІ СПАДАРСТВА ХРЭНОЎСКІХ

У канадзкай правінцыі Квэбэк, у гор. Манрэалі, жыве сьведамая й грамадзка дзейная беларуская сям'я Анатоля й Хрыстыны Хрэноўскіх. Дзеці сп-тва Хрэноўскіх здабылі або здабываюць асьвету, належаць да Беларускага Таварыства Квэбэку, цікавяцца беларускімі справамі, бяруць удзел у грамадзкіх мерапрыемствах.



Старэйшы сын **Антон**, якому 25 гадоў, скончыў у 1980 г. сярэднюю школу, выпрабоўвае свае здольнасьці ў розных галінах у пошуку адпаведнае кар'еры, актыўны ў арганізацыі хрысьціянскае моладзі ІМКА, займаецца спортам (гакей, плаваньне, лыжы), грае на акадыёне.



Антонаў брат **Рыгор (Грэгары)**, якому 22 гады, вывучае цяпер інжынерыю на Канкорд'яўскім Унівэрсытэце. Рыгор таксама займаецца спортам (лыжы, ракетбол, парусная лодка, падыманьне цяжараў) ды грае на ўдарных.



18-гадовая сястра **Галена** — студэнтка пэдагагічнага факультэту Макгільскага Ў-ту. Каб памагчы аплаціць навуку, Галена прадае вырабы парфумэрнае фірмы Эйван ды часткава працуе; займаецца аэробікай, вышыўкай нацыянальных блюзак.



Наймалодшая з маладых Хрэноўскіх, **Ларыса**, 16 гадоў, канчае сёлета сярэднюю школу, уваходзіць у школьны камітэт; любіць спорт (лыжы), грае ў школьнай футбольнай камандзе; спадзяецца стацца бухгальтэрам.

Дзеці сп-тва Хрэноўскіх гатовыя заўсёды да ўдзелу ў мерапрыемствах (у Манрэалі, Атаве), у якіх рэпрэзэнтуецца беларускае імя.

### «СУСТРЭЧЫ» № 5, 1986

Пяты нумар гадавога часапісу беларускіх студэнтаў у Польшчы выйшаў пад новай рэдакцыяй Валянтына Сельвесюка. Як і папярэднія нумары, выданьне ілюстраванае фатаздымкамі й рысункамі здольнага мастака Лёніка Тарасэвіча. Рэдактар папярэдніх нумароў «Сустрэчаў» Я. Максымюк у ўводным артыкуле адзначае, што цяпер «часопіс у надзейных і ўжо вопытных руках».

У нумары: артыкулы В. Сельвесюка — «Пражскае зямляцтва» (пра беларускіх студэнтаў у Празе ў 1920-х гг.); Віктара Ярмалковіча — «Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні»; падарожныя нататкі Л. Тарасэвіча; арт. Міколы Ваўранюка — «Абуджаныя турыным рогам» (пра вершы беларускага савецкага паэта Алега Мінкіна); хроніка студэнцкага жыцьця.

***Ліст у Рэдакцыю***

### *ХТО ЯГО ЗАПРАШАЎ?*

На паседжаньні дэлегатаў трынаццёх беларускіх арганізацыяў Аўстраліі й Камітэту Фэдэральнай Рады было ўзьнята пытаньне, хто запрасіў на Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі Янку Бруцкага. Як выявілася, ніхто яго не запрашаў. Яго прывёў асабіста а. Кулакоўскі ў залю Сустрэчы. Калі сп. Скабей папрасіў «Уладыку» Бруцкага паведаміць аб стане непаладкаў у БАПЦ, Бруцкі не адазваўся навет адным словам на гэтую просьбу. На Сустрэчы выбралі двух дэлегатаў, сп. Раецкага й сп. Нікана, каб яны выясьнілі з Бруцкім справу БАПЦ, але ён адмовіўся сустрэцца з дэлегатамі.

На Сустрэчы інж. С. Каранеўскі прыгатаваў матар'ял пра Міхала Кукабаку, беларускага вязьня сумленьня ў Савецкім Саюзе, і раздаваліся да подпісу паштовыя карткі з дамаганьнем вызваленьня Кукабакі. Калі сп. Гавенчык з жонкай падыйшлі з гэтымі карткамі да а. Кулакоўскага й Я. Бруцкага, каб яны падпісалі карткі, абодвы сьвятары адказалі, што яны за вязьняў сумленьня не пратэстуюць.

**Мікола Шуст,**
**госьць 7-й Сустрэчы**
**Беларусаў Аўстраліі**

# НА ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдне ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. А. і Л. Бяленіс | ам. дал. | 200 |
| 2. М. і В. Махнач | | 100 |
| 3. В. і Л. Брылеўскі | | 50 |
| 4. Б. Дубоўскі | | 40 |
| 5. Н. Кушаль | | 30 |
| 6. М. Васілеўская | | 30 |
| 7. Т. і М. Грынчук | | 20 |
| 8. Ю. Беразоўскі (з Канады) | | 20 |
| 9. Ю. Андрусышына | | 20 |
| 10. Я. Каханоўская | | 20 |
| | Разам | 530 |

*Сабрана на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Джэрзы:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. М. і Н. Рагуля | ам.дал. | 50 |
| 2. Ф. і А. Рамана | | 50 |
| 3. П. і А. Кажура | | 25 |
| 5. У. Р. | | 20 |
| 6. А. і М. Сільвановіч | | 20 |
| 7. Архіеп. Мікалай | | 20 |
| 8. Г. і В. Русак | | 20 |
| 9 М. Заморскі | | 20 |
| 10. А. Кайко | | 20 |
| 11. Л. і Л. Норык | | 20 |
| 12. М. і Я. Азарка | | 20 |
| 13. М. Ганько | | 20 |
| 14. Ю. Кіпель | | 20 |
| 15. Ананімна | | 15 |
| 16. А. Мацукевіч | | 15 |
| 17. В. Кажан | | 15 |
| 18. М. Каранеўскі | | 10 |
| 19. Л. Стагановіч | | 10 |
| 20. Л. Шурак | | 10 |
| 21. В. Міцкевіч | | 10 |
| 22. А. і Т. Кольба | | 10 |
| 23. Л. Корчык | | 10 |
| 24. Т. Супрун | | 10 |
| 25. Ананімна | | 10 |
| 26. А. Міцкевіч | | 10 |
| 27. П. Кажура | | 10 |
| 28. В. і Н. Стома | | 10 |
| 29. Б. Даніловіч | | 10 |
| 30. А. Субота | | 10 |
| 31. Е. Ярашэвіч | | 10 |
| 32. В. Машанскі | | 10 |
| 33. М. Тулейка | | 10 |
| 34. А. Ліхач | | 10 |
| 35. Н. Орса | | 10 |
| 36. З. Станкевіч | | 10 |
| 37. Р. Станкевіч | | 10 |
| 38. А. Шукелайць | | 10 |
| 39. А. Дубяга | | 5 |
| 40. В. Макац | | 5 |
| 41. Я. Сапяжынскі | | 5 |
| 42. А. Кос | | 5 |
| 43. А. Костэр | | 5 |
| 44. М. Абрамчык | | 5 |
| 45. К. і М. Верабей | | 5 |
| 46. С. Гутырчык | | 5 |
| 47. А. Граматовіч | | 1 |
| 48. Е. Рыжы | | 1 |
| | Разам | 652 |

*Падпіска й ахвяры праз сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| 1. С. Кірылік | 30 |
| 2. А. Кузьміч | 30 |
| 3. А. Сямёнава | 30 |
| 4. В. Валаткевіч | 30 |
| 5. А. Якімовіч | 25 |
| 6. М. Александровіч | 25 |
| 7. В. Цярпіцкі | 23 |
| 8. А. Губэрт | 20 |
| 9. В. Дутка | 20 |
| 10. М. Сенька | 20 |
| 11. Р. Галяк | 20 |
| 12. А. Дубяга | 20 |
| 13. А. Субота | 20 |
| 14. Я. Азарка | 20 |
| 15. В. Машанскі | 20 |
| 16. М. Абрамчык | 15 |
| 17. М. Бахар | 15 |
| 18. П. Орса | 15 |
| 19. а. А. Махнюк | 15 |
| 20. Б. Букатка | 15 |
| 21. К. Ворт | 15 |
| 22. М. Палюховіч | 15 |
| 23. М. Касьцюк | 15 |
| 24. А. Шастак | 15 |
| 25. В. Макац | 15 |
| 26. Т. Кольба | 15 |
| 27. Ю. Станкевіч | 15 |
| 28. А. Занкавіч | 15 |
| 29. А. Нэстар | 15 |
| Разам | 563 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Л. Клыбік | б. франк. | 1000 |
| 2. З. Смаршчок | | 1000 |
| 3. Я. Жучка | | 500 |
| 4. М. Саўка | | 500 |
| 5. Р. Занькоўскі | | 400 |
| 6. П. Барысік | | 400 |
| | Разам | 3800 |

## ПАПРАЎКА

Пры вярстаньні папярэдняга нумару «Беларуса» ў інфармацыі пра Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі выпалі ініцыялы подпісу аўтара карэспандэнцыі. — **М.Н.**

# ПАМЯЦІ ДР. В. ВОЙТАНКІ

Сёлета ўвесну спаўняецца 15 гадоў ад дня раптоўнае сьмерці знанага й выдатнага беларускага дзеяча — др. Віктара Войтанкі.



Аб др. Войтанку пісалася бадай найшырэй як аб дзеячу ў галіне адраджэньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Гэта правільна — ён дзейнасьці на ніве царкоўнай аддаваўся ўвесь, і зрабіў шмат, а яшчэ больш хацеў зрабіць. Аднак, царкоўная дзейнасьць была толькі адна галіна зацікаўленьняў і вельмі актыўнае працы др. Войтанкі. Ён-жа дзеіў і ў іншых дзялянках палітычнае й грамадзкае працы. Зь віленскіх часоў др. Войтанка быў актыўны і ў студэнцкіх арганізацыях, і ў друку, і ў грамадзкім жыцьці. Ён выявіў сябе вельмі здольным адміністратарам і палітычным дзеячом. На эміграцыі бадай ці была галіна дзейнасьці, у якой-бы ня быў у першых радох др. Войтанка.

І яшчэ на адну важную рысу др. Войтанкі трэба звярнуць увагу — на ягоную лекарскую працу, ягоную сардэчную дапамогу беларускім эмігрантам старэйшага веку ды заўсёдны ягоны аптымізм нават у бязвыходных канчатковых сытуацыях. Бесспрэчна, др. Войтанка пакінуў па сабе ў грамадзтве ВЕЧНУЮ ПАМЯЦЬ!

**Група сяброў**

## 1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

Амэрыканска-Беларуская Незалежная Грэка-Праваслаўная Царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў гор. Нью-Ёрку (раён Рычманд-Гіл у Квіньсе) адзначыць 31 травеня сёлета архірэйскай багаслужбай і банкетам 1000-годзьдзе хрысьціянства на Беларусі. Багаслужбу адправіць Архіепіскап Мікалай, Прымат Амэрыканскае Карпата-Рускае Праваслаўнае Грэка-Каталіцкае Епархіі Экумэнічнага Патрыярхату ў суслужэньні духавенства.

Даклад пра хрысьціянства на Беларусі прачытае праф. Томас Бэрд.

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг з б. 5-й)*

Гарольд Вашынгтон таксама абвесьціў дзень 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці.

Надзвычайным мамэнтам сёлетняй сакавіковай гадавіны была правіцельная тэлеграма ад Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана. Абодва ілінойскія сэнатары таксама прыслалі свае прывітаньні й пажаданьні.

Дзень Беларускай Незалежнасьці быў абвешчаны і губэрнатарам суседняга штату Індыяна Робэртам Д. Орам.

У нядзелю 29 сакавіка адміністратар беларускай царквы Хрыста Збаўцы а. Джон МкДонэл адправіў Службу Божую за Беларусь і беларускі народ, а ў казаньні падкрэсьліў абавязак кожнага Беларуса й Беларускі быць вытрывалым у вернасьці сваім рэлігійным і незалежніцкім ідэалам. Багаслужба, як кожнае нядзелі, закончылася супольным адсьпяваньнем малітвы-гімну «Магутны Божа».

Папаўдні прыгожая банкетная заля гатэлю «Рыджэнсы Ін» запоўнілася Беларусамі й запрошанымі гасьцямі. Сьвяткавальная праграма пачалася адсьпяваньнем амэрыканскага гімну сп-няй Авіс Прамсгафэр пад акампанімэнт сваёй сяброўкі Сузі Спасдрон. Айцец МкДонэл сказаў малітву, а др. Ролянд Толівэр, які вёў праграму, папрасіў прысутных ушанаваць хвілінай цішыні змагароў, што аддалі сваё жыцьцё за Беларусь.

Старшыня Каардынацыйнага Камітэту сп. Нікадэм Жызнеўскі прывітаў удзельнікаў сьвяткаваньня. Быў паданы абед.

Па абедзе пачалася акадэмія. Др. Толівэр прадставіў гасьцей. На сьвяткаваньні былі: др. Міраслава Харкевыч, старшыня Украінскага Кангрэсавага Камітэту; Казімір Оксас, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў; Роўз Фарына ад гарадзкой управы гор. Чыкага; пастар Алексы Гарбузюк ад Украінскай Баптысцкай Царквы; Антоні Рэндзіх ад Палякоў; Ляшлё Мадзьяросы, кіраўнік Мадзярскіх Змагароў за Свабоду; Адэля Вацэк рэпрэзэнтавала штатнага сэнатара Джуды Вар-Топінку. Амаль усе госьці прамаўлялі. Былі прачытаныя таксама ўсе праклямацыі й прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў і асобаў.

Поля Мартыновіч-Брэжнева, ведамая беларуская сьпявачка, выканала пад акампанімэнт а. Язэпа Сіру тры лірычныя беларускія песьні.

Малады адвакат Ян Гайдзель прачытаў паангельску вельмі патрыятычны рэфэрат на тэму дня. Было гэта, можна сказаць, крэда маладога Беларуса, які так сардэчна прызнаваўся да свае беларускасьці. Усе горача яго віталі.

Валянтына Ваксэліс прадэклямавала верш Пімена Панчанкі «Краіна мая», а далей а. Сіру адыграў на піяніна кампазыцыю «Лубок». Франсыс Джонсан выканала на іскрыпцы тры беларускія песьні пры акампанімэньце а. Сіру.

Др. Мацьвей Смаршчок, які на запросіны Камітэту прыехаў зь Мінэсоты, прачытаў пабеларуску рэфэрат на тэму дня. Была гэта вельмі жывая, поўная патрыятызму і паэтычнага ўзьлёту прамова. Мы вельмі ўдзячныя за гэта др. Смаршчку.

Айцец Сіру яшчэ выступіў зь беларускай песьняй і музыкай на піяніна.

Сьвятар А. Гарбузюк сказаў малітву, па якой усе адсьпявалі «Магутны Божа».

Сп. Нікадэм Жызьнеўскі падзякаваў прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні . Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага гімну.

**А. Б.**

## ВЫСТАЎКА Ў ЧЫКАГА

Ужо 12-ты год узапар Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага ладзіць, прысьвечаную акту абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, выстаўку ў Цэнтры імя Дэйлі (Рычард Дэйлі — былы мэр гораду Чыкага). Трэба зацеміць, што Цэнтар знаходзіцца ў самым сэрцы Чыкага зь вялізарным навакольным пляцам, дзе адбываюцца розныя культурныя, спартовыя ды палітычныя падзеі. Тут заўсёды шмат публікі з увагі на тое, што ў фае Цэнтру ладзяцца розныя этнічныя выстаўкі ды вакальна-музычныя імпрэзы.

Нашая выстаўка, што трывала ад 23 сакавіка да 10 красавіка, складалася з шасьцёх панэляў. На адной зь іх былі разьмешчаныя праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці ад мэра Чыкага Гэральда Вашынгтона, губэрнатара штату Іліной Джэймса Томпсана, прывітальная тэлеграма ад Прэзыдэнта Рэйгана ды Пагоня зь беларускім і амэрыканскім сьцяжкамі; побач — этнаграфічная карта Беларусі. На другой панэлі — багатая дакумэнтацыя пра нашага іншадумца Міхася Кукабаку, улучна зь вялікім плякатам Міжнароднай Амністыі, прысьвечаным мужнаму змагару за правы чалавека, на якім паказыныя розныя фазы жыцьця Міхася Кукабакі.

Асобная панэль інфармавала пра дзейнасьць Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага (выступленьні танцавальнага гуртка, сустрэчы беларускай дэлегацыі з мэрамі гораду, выстаўкі ды іншыя імпрэзы). Ладнае месца на выстаўцы было адведзенае фатаграфіям сталічнага Менску, беларускіх краявідаў ды паніщчаных сьвятыняў з надпісамі, што сьвятыні стаяць, але рэлігійнае карыстаньне імі забаронена.

На іншых чатырох панэлях былі разьмешчаныя калядыя арнамэнты з саломкі ў вясёлкавых калёрах; вялікодныя яйкі маляванкі з прыгожымі, непаўторнымі дэсэнямі; ладны падбор паштовак зь беларускімі народнымі касьцюмамі; а на чацьвертай экспанаваліся інкруставаныя саломкай скрыначкі ды годна была прадстаўленая вышыўка народным арнамэнтам з прыгожымі калёрамі й дэсэнямі.

Выстаўку зрыхтавалі й экспанаты на яе далі сп-тва Людвіка й Антон Бяленісы, сп. Нікодым Жызьнеўскі ды сп-ства Вера й Вітаўт Рамукі.

Газэта «Чыкага Трыбюн» зьмясьціла паведамленьне аб выстаўцы, а адным з водгукаў быў ліст ад аднаго адваката, які, пабыўшы на выстаўцы, прыгадаў сваё беларускае паходжаньне. **Др. В. Р.**

## ЛЁС-АНДЖЭЛЕС, КАЛІФ.

Адзначэньне 69-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, наладжанае Сьвяткавальным Камітэтам, адбылося 29 сакавіка ў залі ўкраінскай каталіцкай царквы ў Галівудзе. Праграму сьвяткаваньня вёў сп. Ч. Найдзюк.

Па адыграньні амэрыканскага гімну й малітвы «Магутны Божа» былі ўшанаваныя памерлыя беларускія патрыёты, упаасбку сьв. пам. Мікола Хмыз, які быў сталым ўдзельнікам беларускіх праграмаў. Прысутная на сьвяце жонка Нябожчыка падзякавала за ўспамін мужа.

*(Працяг на б. 8-й)*

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Працяг з б. 7-й)*

Сп-ня Ю. Найдзюк прачытала прывітаньні: атрыманыя ад Галоўнай Управы БАЗА, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, аддзелу БАЗА ў Кліўленьдзе, -рэдактара часапісу «Зважай» сп. К. Акулы.

З ангамоўных прывітаньняў першым было прачытае ад Прэзыдэнта Рэйгана, атрыманае старшынём Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу ў Каліфорніі.

Прывітаньні ад губэрнатара штату Джорджа Дэкумэнджана, ад старшыні Рады Рэспубліканскіх Этнічных Групаў Фрэнка Стэлі ды ад каліфарнійскага сэнатара Робэрта Бэвэрлі прачытаў сп. Тоня Вініцкі. Ён-жа прачытаў нарыс паангельску «Кароткае азнаямленьне зь гісторыяй Беларусі» зь «Беларускай Думкі» (№ 32/87), а спня Ядзя Найдзюк-Жэнэв'е прачытала артыкул Юркі Азаркі «Чаму мы сьвяткуем?» з часапісу «Беларуская Моладзь» (№№ 45, 46). Вершы Ю. Вскага, Алеся Змагара, Янкі Купалы й Якуба Коласа дэклямавалі Ч. Найдзюк, Каця Вініцкая й Вера Вуіч (Блоцкая).

Сп-ня Ю. Найдзюк прывітала сп-ню Бэнігну Вініцкую з 92-мі ўгодкамі жыцьця ды прачытала казку «Першае яечка» Алеся Якімовіча («Ніва», I.III.87).

Сп. Найдзюк нагадаў пра заклік газэты «Беларус» выказваць падтрыманьне іншадумцу Міхасю Кукабаку ды просьбу др. Вітаўта Кіпеля аб прысыланьні матар'ялаў да кніжкі аб беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, якую ён піша. Урачыстасьць закончылася беларускім гімнам.

Адбыўся супольны пачастунак, у часе якога былі сабраныя грашовыя складкі на грамадзкія патрэбы. На пачастунку былі гасьцямі а. Міхайла Калтуцкі з матушкай ад Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы. **Н.**

---

ТАМПА, ФЛЯРЫДА

Угодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі суродзічы з г. Тампа й ваколіцаў, падмацаваныя зьездам дактароў з Навагрдчыны, сьвяткавалі даклад на 25-га сакавіка. Прысутны на ўрачыстасьці Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч прывітаў сьвяточную грамаду й запрапанаваў пачаць акадэмію адсьпяваньнем «навагрaдзкага гімну» — «Падняты родны сьцяг Дзяржавы».

У кароткім дакладзе на тэму «Аднаўленьне Дзяржаўнасьці Беларусі» др. Сажыч падкрэсьліў, што сяньняшняя беларуская дзяржава ў форме БССР, хоць і ўваходзіць у склад АНН, аднак яна абрабаваная тэрытарыяльна, гістарычна-культурна ды асабліва моўна. Таму заданьнем Беларусаў і надалей застаецца змаганьне за поўную незалежнасьць Беларусі ў ейных этнаграфічных межах. Паколькі сярод прысутных было поўдзесятка радных БНР, адбылася карысная дыскусія на тэму бягучае палітычна-ідэйнае працы. Былі выслуханыя пісьмовыя й вусныя прывітаньні з нагоды Сьвята. У часе застольнае бяседы сябры дзяліліся ўспамінамі пра вялікі нацыянальны ўздым ваенных гадоў. Была выказаная думка, каб падобныя сьвяткаваньні нашага «нацыянальнага Вялікадня» ў Цэнтральнай Флярыдзе працягваліся ды сталіся традыцыяй.

Флярыдзкія Беларусы шчыра дзякавалі суродзічам з далёкай поўначы з надзеяй на падобныя спатканьні ў будучыні. **Навагрaдзкі**

*(Заканчэньне карэспандэнцыяў пра Сакавіковыя сьвяткаваньні ў Мэльбурне, Пэрце, Лёндане ды іншых гарадох будзе зьмешчанае ў наступным нумары.)*

---

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

### АГУЛЬНЫ СХОД МОЛАДЗІ

15 лютага 1987 г. адбыўся агульны сход аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Зь фінансавай справаздачы выявілася, што сябры арганізацыі із сваімі заданьнямі справіліся вельмі добра: на працягу лета многія зь іх працавалі на стадыёне ў часе спартовых гульняў, прадаючы пітво. Амаль увесь прыбытак яны перадалі ў касу моладзі. І так, за сэзон 1986 году прыдбалі каля 13 тысячаў даляраў.

Сход пастанавіў больш актыўна ўключыцца ў жыцьцё беларускае калёніі Кліўленду: папоўніць новымі сябрамі аддзел БАЗА, парафію БАПЦ, грамадзкі цэнтар «Полацак».

Сход прызнаў ахвяры па 100 даляраў на Кансысторыю БАПЦ, царкву Сьвятога Духа ў Беластоку ды Беларускі музэй у Гайнаўцы на Беласточчыне.

У пляне працы на 1987 год было пастаноўлена прыдбаць больш сяброў моладзі, арганізаваць розныя імпрэзы, узяць актыўны ўдзел у імпрэзах беларускае калёніі, перавыбраць кіраўніцтва. У цяперашняе кіраўніцтва уваходзяць: Віктар Страпко — кіраўнік, Володзя Літвінка — сакратар, Андрэй Кананчук — скарбнік.

Трэба прывітаць арганізацыю моладзі з дасягненьнямі ды пажадаць ёй добрых удачаў у выкананьні прынятага пляну. **К.П.**

### ПЕРАВЫБАРЧЫ СХОД ПАРАФІІ

Перавыбарчы сход парафіі Жыровіцкае Божае Маці адбыўся 15 сакавіка 1987 году. Старшыня парафіяльнай рады Сяргей Карніловіч адчыніў сход, настаяцель а. Міхась Страпко прачытаў малітву. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя Анатоль Лук'янчык на старшыню, а Кастусь Калоша на сакратара. Прысутнасьць на сходзе была 70%.

Як паказалі справаздачы, парафіяльная рада прарабіла шмат працы: рамонт царквы й пляцу, ладжаньне розных імпрэзаў, добрая лучнасьць з Кансысторыяй БАПЦ, лучнасьць зь іншымі парафіямі; нядрэнна вышла рада й фінансава. За ўсё гэта радзе быў прызнаны абсалюторыюм з падзякай.

Сход пастанавіў перавыбраць раду ў дасюлешнім складзе: Сяргей Карніловіч — старшыня, Андрэй Стрэчань — заступнік, Іра Кляда-Сьмірнова — скрабнік, Оля Кабяка — скрабнік і сябры Валя Ягаўдзік, Эва Яраховіч і Валя Яцэвіч. У рэвізійную камісію перавыбралі Анатоля Лук'янчыка, Янку Ханенку й Астапа Яраховіча. На царкоўнага старасту перавыбралі Адама Пракаповіча, а Астапа Яраховіча заступнікам. Быў прыняты бюджэт на 1987 год у суме 24.800 даляраў. Сход закончыўся малітвай. **К.П.**

---

## СЬВ. † ПАМ.
## ОЛЬГА ТАРАШКЕВІЧ

з дому Купрыяновіч, народжаная 30.V.1900 г. ў Мішкэвічах Ленінскай воласьці на Берасьцейшчыне, памерла 4.IV.1987 г. ў Нью-Ёрку. Пахаваная на могільніку Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Равэры. Нябожчыца была сьведамай Беларускай і актыўнай удзельніцай беларускага грамадзкага й рэлігійнага жыцьця. Вечная ёй памяць!

**Царкоўная ўправа парафіі
Сьв. Кірылы Тураўскага
ў Рычманд-гіле, ў гор. Нью-Ёрку**

## СЬВ. ПАМ. ВАСІЛІСА БАКУНОВІЧ

**(20.VIII.1895 — 19.III. 1987)**

Васіліса Бакуновіч, з дому Купрыяновіч, нарадзілася ў вёсцы Вялікія Сьцяблевічы, Ленінскай гміны на Палесьсі. Яна была найстарэйшай зь сямёх дзяцей у Хведара Купрыяновіча.



Хоць бацька Васілісы быў мясцовым судзьдзём, але жылося цяжка, і ніводнае зь дзяцей не атрымала належнае асьветы, а Васілісе лёс ня судзіў быць у школе наагул. Паколькі ў ейнай мамы рэўматызм скалечыў рукі, Васілісе, як найстарэйшай зь дзяцей, давялося даглядаць сям'ю й гаспадарку.

На адсутнасьць асьветы ў дзяцей Хведара Купрыяновіча паўплываў выпадак параненьня яго аднавяскоўцам, калі Купрыяновіч вынес супраць таго аднавяскоўца прысуд ды пакараў яго грашовай карай. Гэты выпадак адбіў у Хведара ахвоту да «панскага хлеба». Таму праз цэлае далейшае жыцьцё ён намагаўся прыдбаць зямлі для трох сыноў і пасагу для чатырох дочак.

Купрыяновіч прыдбаў сабе невялікую гаспадарку, але грошы, што ўлажыў у банк золатам, у рэвалюцыю банк яму выплаціў бязвартаснымі керанкамі.

Пасьля Рыскага Дагавору польска-савецкая мяжа прайшла па пацэ Случ і Хведарава зямля засталася па другім баку мяжы. Гэткім чынам Хведар застаўся бяз грошай і безь зямлі, а ягоныя дзеці — без асьветы.

У 1914 г. Васіліса выходзіць замуж за Пётру Бакуновіча ў Малыя Сьцяблевічы і, здавалася-б, лёс нарэшце ўсьміхнуўся Васілісе. Гаспадарка была раскошнаю, поўна жывёлы, і недастатку ня было. За польскімі часамі малако прадавалі ў малачарню, лён і каноплі высылалі ў фабрыку ў Лодзь, а ўзамен атрымоўвалі матар'ялы на касьцюмы, на сукенкі... Не павязло Васілісе толькі на дочак. Як толькі народзіцца дзяўчынка, дык на сёмым годзе памрэ. І так, Вера, выпаўшы з вакна й пераламаўшы пазваночнік, памерла на сёмым годзе; Жэня, захварэўшы на шкарлятыну, памерла, маючы закончаных 6 год; Галіна таксама памерла на сёмым годзе ад запаленьня мозгу.

1939 год. Польска-нямецкая вайна. З Усходу працягнулі «брацкую руку» Заходняй Беларусі. У гэтым самым годзе арыштоўваюць Пётру, пад абвінавачаньнем, што быў шэфам польскае контр-разьведкі. Сядзеў спачатку ў пінскай турме, а потым ня цэлыя 9 месяцаў у турме ў Брэсцкай Крэпасьці. Вызваліла нямецкая армія ў першую гадзіну вайны.

Далейшыя ваенныя падзеі ня былі спрыяльныя, а таму Пётра пастанавіў ратаваць сваё жыцьцё й жыцьцё сям'і: 23 сакавіка 1944 г. заладаваліся на цягнік і выехалі ў Нямеччыну, бо й так двух старэйшых сыноў Немцы ўжо адлучылі ад сям'і — працавалі ў маёнтку 18 кілямэтраў ад гораду Рэгенсбургу ў Баварыі.

Ад 1945 да 1950 г. бадзяньне па ДэПіўскіх лягерох, а 23 сакавіка (ізноў 23-га!) 1950 г. заладаваліся на амэрыканскі карабель «Стурджыс» у Нэапалі й накіраваліся ў Аўстралію ў горад Сыднэй, дзе Нябожчыца пражыла яшчэ 37 гадоў.

Васіліса выгадавала трох сыноў і дачку — нацыянальна-сьведамых Беларусоў, якія ў беларускай грамадзскай працы заўсёды стаяць у першых радох. Нябожчыца адыйшла ў вечнасьць 19 сакавіка 1987 г. ў далёкай ад роднага Палесься Аўстраліі. Вечная Табе памяць, Мама.

**Валодзя**

---

### З ЖЫЦЬЦЯ Ў КАНАДЗЕ

**Агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады адбудзецца не 9-га травеня сёлета, а 23-га травеня ў** залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру (524 St. Clarens Ave., Toronto) і пачнецца ф 3-й гадз. папаўдні. Дата зьезду перанесеная ў сувязі зь Міжэтнічнай Выстаўкай у Атаве (гл. ніжэй).

**На Міжэтнічнай Выстаўцы ў сталіцы Канады Атаве** (тэма выстаўкі: «Сьвята Маці ў сьвеце» будзе Беларускі Павільён наладжаны Атаўскім аддзелам Згуртаваньня Беларусаў Канады (старшыня — сп. Янка Сурвіла) Выстаўка адбудзецца ў канцы тыдня 8-9-10 травеня (адчыніцца ў пятніцу а 6-й гадз. ўвечары; у сыботу адчыненая ад 12-й гадз. дня да 12-й ночы; у нядзелю — ад 12-й дня да 8-й увечары).

### ВЫСТАЎКІ Л. ТАРАСЭВІЧА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Малады беларускі мастак з Польскай Народнай Рэспублікі Лёнік Тарасэвіч (супрацоўнік газэты «Ніва» й студэнцкага часапісу «Сустрэчы») на пачатку травеня сёлета прыбывае ў Нью-Ёрк, каб быць асабіста на выстаўках ягоных абразоў у дзьвюх галерэях Мангатэну: галерэі Эдварда Торпа (103 Prince St., tel.: 431-6880) і галерэі Бранта Дамондта (568 Broadway, tel.: 431-1444). Выстаўкі будуць трываць ад 16 травеня да 26 чэрвеня 1987 году.